# Ó Îðøû ïàáóäóþöü â¸ñêó äëÿ ñ³ðîò-³íâàë³äà¢



**Аўтар незвычайнага праекта - аршанскі прадпрымальнік Аляксей Талай.**

Аляксей стаў інвалідам у 16 гадоў. Нягледзячы на гэта, ён стаў паспяховым бізнесменам і займаецца дабрачыннасцю. Па задуме А.Талая, у вёску перасяляцца 76 дзяцей-інвалідаў, якія цяпер выхоўваюцца ў Аршанскай школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот і дзяцей, пакінутых без апекі бацькоў. У кожнай з хат будуць пражываць сем дзяцей і маці-выхавальнік. У кожнага дзіцяці будзе асобны пакой. Мяркуецца, што ў вёсцы размесцяцца не толькі спартыўныя комплексы, але і... загоны для коней. Вядома, што іппатэрапія - заняткі з конямі - дабратворна ўплывае на фізічную і псіхалагічную адаптацыю дзіцяці-інваліда.

Як паведамляе БЕЛТА, у распрацоўцы праекта прымуць удзел адмыслоўцы каларадскага Амерыканскага інстытута архітэктараў. Дапамогу ў будаўніцтве вёскі гатовы аказаць Мінскі саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў. Аляксей Талай мяркуе знайсці крыніцы фінансавання праекта за мяжой, для чаго запланаваў паездку ў Злучаныя Штаты Амерыкі і займаецца стварэннем сумеснага беларуска-амерыканскага Фонду дапамогі дзецям-сіротам і дзецям-інвалідам.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ãðýå äóøó ¢âàãà

■ Кастусь Александровіч

**З ранняй вясны да позняй восені хапае клопатаў і напружанай працы працаўнікам сельскай мясцовасці.**

Аднак у адной з вядучых гаспадарак Пастаўскага раёна, СВК "Навасёлкі-Лучай" (у мінулым вядомы ў СССР калгас імя Суворава) знайшлі падставу ў адзін са спякотных летніх вечароў правесці маштабнае свята працаўнікоў вёскі. Пад кіраўніцтвам свайго новага старшыні Юрыя Шымчыка, прыйшоўшага на змену славутаму кіраўніку Алегу Валадзько, сёлета мясцовыя хлебаробы плённа папрацавалі на веснавой сяўбе, добра апрацаваўшы амаль 3 тысячы гектары яравых. Таксама калектыў першым у раёне правёў нарыхтоўку кармоў першым укосам, добра падрыхтаваўся да жніва збожжа. Таму на свяце былі годна ўшанаваны лепшыя 70 працаўнікоў, атрымаўшыя важкія грашовыя прэміі. Пасля завяршэння гэтай часткі ўрачыстасцей цэнтральная плошча аграгарадка пераўтварылася ў адкрытую канцэртную пляцоўку, на якой выступіла з сольнай праграмай заслужаная артыстка РБ Ірына Дарафеева. Шмат апладысментаў зарабілі маладыя спевакі з эстраднага народнага ансамбля "25 плюс-мінус". Да позняга вечара грымела на плошчы затым дыскатэка. Прысутныя мясцічы, а таксама жыхары з райцэнтра, Варапаева, навакольных вёсак атрымалі задавальненне ад магчымасці добра адпачыць, паласавацца шашлыкамі, юшкай, спецыяльна зваранай да свята спецыялістамі рыбгаса "Навінкі".

Äîêø ûöê³ ðà¸í

# Â³ç³òíàÿ êàðòêà ïàñ¸ëêà

■ Станіслаў Раманчук

**Падзеяй года для жыхароў гарпасёлка Бягомль і ваколіц, што ў Докшыцкім раёне, стала днямі ўрачыстае адкрыццё абноўленай за 3,5 млрд. рублёў аўтастанцыі.**

Аб'ектаў такога ўзроўню, аснашчаных па сучасных патрабаваннях, у глыбінцы дагэтуль не было. Акрамя ўстаноўкі камп'ютарнай сістэмы продажу і браніравання білетаў, тут укараняюць сістэму спутнікавай навігацыі, як у Еўропе, за кантролем руху аўтатранспарту. Прыехаўшы сюды, любы пасажыр зможа заказаць і набыць сабе праязны білет на аўтобус ужо па тэрыторыі ўсёй Беларусі. У перспектыве стане магчымым заказваць тут білет і на беларускія цягнікі і самалёты кампаніі "Белавія". Праца па стварэнні такога патрэбнага і жаданага для пасажыраў дома чакання прыбыцця аўтобусаў з кафэ, аптэчным кіёскам, пакоем для адпачынку з дзецьмі, утульнай залай з вялізным ЖК-тэлевізарам заняла меней года. Адкрываць сучасную аўтастанцыю сюды прыехаў асабіста кіраўнік Віцебскай вобласці Аляксандр Косінец. Ён даў даручэнне падначаленым з аб'яднання "Віцебскаблаўтатранс" арганізаваць продаж тут для пасажыраў спецыяльных "сухіх пайкоў" па аналогіі з тымі, якія даюць пасажырам ў палётах на авіярэйсах. Адсюль у розных накірунках штодзень адбываюць дзесяткі рэйсаў на Мінск, Віцебск, іншыя гарады краіны і за мяжу.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Àäíà íàçâà, øòî ãîðàä

■ Чэслаў Якубовіч

**Калісьці ў мінулым асноўным цэнтрам развіцця Мёрскага раёна было мястэчка Дзісна, дзе было 9 прадпрыемстваў і нават мытня.**

Але пасля вайны самы малы горад краіны з насельніцтам каля 2 тысяч чалавек перастаў быць райцэнтрам і вось ужо паўстагоддзя паціху хірэе, моладзь адсюль з'язджае, не бачачы для сябе перспектыў. Дзіўна, але Дзісну не ўключылі, як патрабавалася, у Дзяржпраграму развіцця малых гарадоў і не сталі ўкладваць сродкі для развіцця хоць бы таго ж аграгарадка. Спадзяваліся тут на развіццё турыстычнага бізнеса. Аднак праблем толькі дабавілася, калі вясной падчас моцнай паводкі вада знесла аглядавую пляцоўку, пабудаваную ў форме вялікай лодкі на месцы сустрэчы двух рэк – Дзісны з больш бурнай Заходняй Дзвіной. Праўда, турысты сюды прыязджаюць, але болей бачаць занядпад і запусценне, напоўразбураныя будынкі бальніцы, касцёла, закрытых апошніх часам заводаў і пілорамы лясгаса. На такім фоне жыццё ўжо не радуе як старых, так і маладых. Адпаведна ў горадзе толькі летась праводзілі на могілкі 37 жыхароў, а лік нарадзіўшых саступае нябожчыкам у разы. Крыўдна дзісненцам, што засталіся яны пасутнасці мала каму патрэбнымі, як і жыхары іншых малых пасяленняў у глыбінцы.

# Ó Áåëàðóñ³ ïåðàíåñåíû ïà÷àòàê ïàëÿâàííÿ íà ïòóøûíóþ äç³÷ûíó

■ Андрэй Серада, *БелаПАН*

**У сувязі з пажаранебяспечным становішчам у лясах Беларусі перанесены пачатак палявання на птушыную дзічыну.**

Адпаведныя рашэнні вынесены ўсімі аблвыканкамамі краіны паводле патрабавання Камісіі па надзвычайных сітуацыях пры Савеце міністраў, паведамляе прэс-служба Міністэрства лясной гаспадаркі.

Мінлясгас накіраваў тэрміновую тэлефанаграму ва ўсе паляўнічыя гаспадаркі аб забароне палявання ў лясных масівах краіны.

Пачатак палявання, запланаваны на 7 жніўня, пераносіцца на няпэўны тэрмін, растлумачылі ў міністэрстве. Пра адкрыццё сезона будзе паведамлена дадаткова.

Мінлясгас нагадвае аб адміністрацыйнай адказнасці (буйныя штрафы) за парушэнні патрабаванняў пажарнай бяспекі ў лясах і на тарфяніках або забароны на іх наведванне.

Абмежаванні на наведванне лясоў уведзены ва ўсіх абласцях Беларусі. Усяго з пачатку пажаранебяспечнага перыяду (канец сакавіка — пачатак красавіка) у лясах адбылося 420 пажараў, пацярпела 260 га лесу. Летась на 6 жніўня ў лясным фондзе Мінлясгаса былі зафіксаваны 1.182 пажары, з-за якіх пацярпела 1.545 га лесу.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 12.08.10 | | | пятн.13.08.10 | | | | сб. 14.08.10 | | | | нядз.15.08.10 | | | | 16.08.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +21 | +26 | +22 | +17 | +23 | +31 | +25 | +21 | +25 | +34 | +27 | +21 | +25 | +34 | +26 | +20 | +25 | +33 |
| Ціск, мм | 750 | 750 | 750 | 750 | 750 | 749 | 749 | 749 | 750 | 750 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 | 750 | 750 | 750 |
| Вільготнасць, % | 83 | 55 | 78 | 93 | 76 | 45 | 74 | 77 | 61 | 33 | 58 | 67 | 59 | 30 | 60 | 71 | 62 | 29 |
| Вецер м/сек | С-В 1 | Ю 1 | С-В 3 | С-В 1 | С-В 2 | В 3 | В 4 | Ю 3 | Ю-В 2 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю 3 | Ю 5 | Ю-В 4 | Ю 4 | З 2 | Ю-З 1 |

Запрашаем на пейнтбол!
8 (029) 719-49-45
PAINTBALL
ІП Машкоў А.А.; УНП 300146493

## Äçåíü çà äí¸ì

**Беларускіх пенсіянераў парадавала рашэнне кіраўніцтва краіны напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў павялічыць з 1 жніўня памеры ўсіх відаў працоўных пенсій у сярэднім на 12,5 %. З будучага года ў Беларусі плануецца перайсці ад штомесячнай уплаты падаткаў да штоквартальнай, а з восені – павысіць стаўкі акцызаў на алкаголь і тытунь. Завяршылася летняя адпраўка на ваенную службу маладога папаўнення, на тэрміновую службу і службу ў рэзерве накіравалі больш 120 тысяч чалавек. Другая палова ліпеня стала самай спякотнай у Беларусі за ўсю гісторыю.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Англія.** Кіраўніцтва нафтавай кампаніі ВР вырашыла прадаць свае радовішчы ў ЗША, Пакістане, В'етнаме, Канадзе і Егіпце, каб аплаціць урон 4 млрд. $ ад разліва нафты.

**ЗША.** Кіраўніцтва краіны паведаміла штабкватэры ААН у Нью-Йорку аб сваёй гатоўнасці разгледзець прапановы аб спыненні гонкі ўзбраенняў у касмічнай прасторы.

**Германія.** Краіну шакіравала гібель 19 і раненні 340 чалавек падчас цісканіны на канцэрце ў Дуйсбургу з удзелам 1,5 млн. чал., бяда адбылася з-за пралікаў арганізатараў і паліцыі.

**Сербія.** Сербы не прызнаюць рашэнне Міжнароднага суда ААН пра незалежнасць Косава, як заявіў прэзідэнт Барыс Садзіч, абвешчаную ў аднабаковым парадку зімой 2008 года.

**Украіна.** Міністэрства абароны аб'явіла аб скарачэнні да 2015 года колькасці ўкраінскай арміі на 15-20 % да цяперашніх 200 тысяч чалавек і ліквідацыі празмернай тэхнікі і баз.

**Малдова.** Урад краіны пацвердзіў, што да наступлення халадоў забяспечыць жыллём людзей, чые больш 1,1 тысяч дамоў пацярпелі і былі разбураны ў час паводкі летам.

**Эстонія.** Міністр абароны Эстоніі Я. Аавіксоо заявіў, што для НАТА не стала поўнай нечаканасцю размяшчэнне Расіяй у Ленінградскай вобласці ракетных комплексаў.

**Аргенціна.** Больш 200 чалавек загінулі ў горных раёнах з-за небывалых халадоў, калі марозы перавысілі 25 градусаў, узнік дэфіцыт газу, прыйшлося закрыць садзікі і школы.

**Расія.** Пасля серыі выбухаў на Бансанскай ГЭС у Кабардзіна-Балкарыі па ўсяму Каўказу на важнейшых аб'ектах жыццядзейнасці ўвялі павышаныя меры аховы ад баевікоў.

**Іран.** Вярхоўны лідэр Аятала Хамені ў тэлезвароце да народа заклікаў мусульман на вайну з амерыканскім тэрарызмам, абвінаваціў ЗША і Англію ў дачыненні да выбуху ў краіне.

**Украіна.** Краіна адмовілася ад узаемных візавых патрабаванняў з Ізраілем, грамадзяне абодвух дзяржаў цяпер могуць ездзіць у госці без віз на працягу 90 дзён за паўгода.

**Азербайджан.** Краіна пачала складаць спіс дазволеных і забароненых імён, носьбіты апошніх насілі асобы, якія раней здзейснілі агрэсію супраць азербайджанскага народа.

**Расія.** Старшыня ЦК КПРФ Г. Зюганаў ці не адзіны з уплывовых расійскіх палітыкаў запатрабаваў спыніць "злосныя і абразлівыя нападкі" на кіраўніка РБ А. Р. Лукашэнку.

**Японія.** Самая вялікая ў свеце кветка – амарфафалус цітанічны дыяметрам каля 1 метра упершыню за 19 гадоў прыгожа заквітнела ў Батанічным садзе Токіо, але дрэнна пахне.

**Англія.** Услед за Бельгіяй у краіне пачалі прадаваць спецыяльнае марожанае для сабак са смакам халоднага кумпяка і курыцы, упрыгожанае хрумсткай бісквітнай скарыначкай.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Ва ўрадзе распрацавалі праект новай дзяржпраграмы па ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС, да 2015 года на яе запланавана выдзеліць 6, 6 трыльёнаў рублёў.

**Бабруйск.** Шэраг кітайскіх банкаў гатовы выдзеліць РБ крэдыт у суме 200 млн. $ на рэканструкцыю ўчастка магістральнай аўтадарогі М5 да Жлобіна з прыцягненнем іх фірм.

**Мінск.** Міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі заклікаў высокапастаўленых чыноўнікаў да большай публічнасці і да стварэння міжраённых медыяхолдынгаў.

**Салігорск.** У рэспубліканскі план прыватызацыі на 2010 год дадаткова ўключылі ВА "Беларуськалій", летась з 169 такіх аб'ектаў стварылі ў РБ 108 акцыянерных таварystваў.

**Гомель.** З-за невыноснай гарачыні ўзарвалася падстанцыя "Заходняя", без электрычнасці засталіся 1-я гарбальніца, насосная станцыя, каля 2 тысяч шматпавярховак і дамоў.

**Магілёў.** Пракуратура накіравала ў суд матэрыялы справы банды рабаўнікоў і забойцаў на дарогах вобласці з ліку трох трэнераў па джыў-джытсу, яе лідэр памёр у турме.

**Петрыкаў.** Пасля чатырох сутак напружаных пошукаў жывым і здаровым знайшлі 12-гадовага вясковага хлопчыка з сіндромам Даўна, які згубіўся ў лесе падчас збору ягад.

**Мінск.** Пасля цяжкай працяглай хваробы на 77-м годзе жыцця знайшоў вечны пакой на Маскоўскіх могілках сталіцы кінарэжысёр Ігар Дабралюбаў, пастаноўшчык "Белых рос".

**Жлобін.** На рыбалцы на рацэ Днепр на тэрыторыі раёна сталічны рыбалоў Максім Цофін злавіў велізарнага сама вагой 40 кг і ростам 175 см, рыбіну ён выцягваў з вады 20 хвілін.

**Мінск.** Прэзідэнт дарычыў міністру адукацыі РБ А. Радзькову пачаць працэс далучэння Беларусі да Балонскага працэса, што пашырыць доступ моладзі да праграм ВНУ краін ЕС.

**Жодзіна.** Па ініцыятыве ігракоў кіраўніцтва футбольнага клуба "Тарпеда" вярнула да выканання абавязкаў галоўнага трэнера каманды, спецыяліста з Пастаў А. Бразевіча.

**Гродна.** На помніку архітэктуры XIX стагоддзя – пажарнай каланчы на вышыні 36 метраў установілі новы флюгер – мужны пажарны, які схапіў за хвост палаючага петуха.

**Воранава.** Райпракуратура распачала крымінальную справу супраць маладой маці, прыехаўшай у госці да маці ў вёску Пяроўцы і там забіўшай свайго гадавалага сына.

**Мінск.** Пры перарэгістрацыі з амаль 3 тысяч аб'ектаў, як заявіла намеснік міністра гандлю Беларусі Ірына Наркевіч, не прайшлі ўжо 2, 5 тысячы айчынных інтэрнэт-магазінаў.

**Рэчыца.** Новы сусветны рэкорд устанавіў 56-гадовы вядомы трэнер і футбаліст Юрый Пудышаў, які 16 хвілін згуляў тут у матчы розыгрыша Кубка Беларусі па футболе.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Услед за іншымі рэгіёнамі краіны ўзровень сярэдняй зарплаты па вобласці ў чэрвені перавысіў 1 млн. рублёў, але застаючыся на 6-й нізкай пазіцыі з 1103 тыс. рублёў.

**Полацк.** З пачатку года ў зоне адказнасці мясцовага АУС на транспарце ўжо зарэгістравана 8 няшчасных здарэнняў, пацярпела 8 чалавек, з якіх 3 п'яныя загінулі.

**Віцебск.** У горадзе будзе створана медыцынскае турагенства, бо расце штогод колькасць замежных грамадзян, жадаючых прайсці курс лячэння за грошы ў медустановах вобласці.

**Гарадок.** На базе двух пуставаўшых карпусоў рамонтнага завода адкрылася фірма "Ланатэкс Плюс" па вырабу тэрмаклеевых пракладачных матэрыялаў для абутнікоў.

**Віцебск.** З-за складанай пажаранебяспечнай сітуацыі ў прыгарадным раёне першым на Віцебшчыне ўвялі забарону на наведванне лясоў, вада на рэках стала плюс 26-28 градусаў.

**Талачын.** Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці прыняў рашэнне аб банкрутстве і наступнай ліквідацыі тэкстыльнай фабрыкі, яе даўгі крэдыторам перавысілі 1,5 млрд. руб.

**Полацк.** Супраць кіраўніка мясцовай фірмы заявілі крымінальную справу за крадзёж двух нямецкіх грузавых фур, узятых у арэнду на год, ён скрыўся праз 3 месяцы арэнды.

**Талачын.** Як высветліла райпракуратура, без гаспадара застаўся помнік архітэктуры XIX стагоддзя, стары вадзяны млын, накіравана прадпісанне аб ліквідацыі парушэння закона.

**Бешанковічы.** Прысутнасць пажарных у полі на жніве выратавала ад знішчэння дачны домік у вёсцы Сіняны, які загарэўся ад трапнага ўдару маланкі падчас навальніцы.

**Віцебск.** У Палацы культуры чыгуначнікаў прайшоў першы ў РБ кастынг будучых удзельнікаў расійскага тэлешоу "Смех без правілаў" ва ўзросце ад 18 да 28 гадоў.

**Докшыцы.** Перспектывы развіцця Бярэзінскага краю былі абмеркаваны падчас выязнога пасяджэння тут аблвыканкама, дзе дадзены даручэнні раённым падняць зарплату да 500 $.

**Расоны.** На базе Краснапольскага лясгаса прайшлі чарговыя абласныя спаборніцтвы сярод 17 лясгасаў "Лесаруб-2010", па іх выніках сфарміравана зборная Віцебскай вобласці.

**Полацк.** Больш ста рэдкіх знаходак XI-XIII стагоддзяў адшукалі ў зямлі археолагі падчас летняй экспедыцыі 2010 года ў гарадзе, яны папоўняць фонды мясцовых музеяў.

**Ушачы.** Выратавацца ад летняй спякоты народны паэт РБ Рыгор Барадулін вырашыў у роднай хаце ў райцэнтры, якую за апошнія гады абкрадалі 3 разы, цяпер дом пад аховай.

**Віцебск.** Да канца года на Цэнтральным спартыўным комплексе горада адкрыецца пасля рэканструкцыі лепшая ў вобласці спецыялізаваная зала бокса і аддзяленне ШВСМ.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**1,7** *трлн. рублёў* – такім па выніках 5 месяцаў гэтага года, па дадзеных статыстыкі, ужо стаў дэфіцыт дзяржаўнага бюджэта Рэспублікі Беларусь. Як і чакалася, напярэдадні чарговых прэзідэнцкіх выбараў у краіне павялічваюцца расходы на павышэнне зарплат і пенсій электарату. Таму сёлета такі айчынны бюджэтны дэфіцыт у адпаведнасці з законам павялічаны больш чым на 1 трыльён – да 3,8 трлн. BYR спраць 2,7 трлн. BYR у 2009 годзе.

Зразумела, з улікам цяперашняй стуацыі ў эканоміцы, пагаршэння расійска-беларускіх адносін пакрываць такі недахоп грашовых сродкаў няма чым. Адзінае, краіне ўдалося паспяхова размясціць еўраабліґацыі на суму 500 млн. USD. Праўда, такіх аб'ёмаў валюты не хопіць для таго, каб выканаць стратэгічную задачу па павелічэнню заробкаў да жаданых 500 "зялёных"у. а. А да канца наступнай пяцігодкі ў 2015 годзе нам паабяцалі ўжо чарговы арыенцір – сярэднемесячную зарплату ў памеры 1. 000 USD. Магчыма, многіх і каробіць традыцыйная лексіка пяцігодак яшчэ з савецкіх часоў, якія чамусьці супадаюць з новым прэзідэнцкім тэрмінам кіравання.

Але што маем, тое і маем. Хоць і не аб'яўлена пакуль дата правядзення чарговага з'езда, цяпер ён называецца Усебеларускім народным сходам, але кіраўніцтва краіны даручыла распрацаваць планы будучай пяцігодкі напярэдадні выбараў, якія потым будуць пераўтвораны ў дырэктыўныя заданні чарговым указам. Пачаў працу аргкамітэт па падрыхтоўцы да такога форума ў беларускай сталіцы і на адным з пасяджэнняў кіраўнік урада Сяргей Сідорскі агучыў грандыёзныя, як заўсёды, планы.

Акрамя двукратнага павышэння зарплат беларусам паабяцалі павелічэнне ВУП краіны за 5 наступных гадоў у 1,6 – 1,7 разы, да 7 млрд. USD штогод прыток замежных інвестыцый, трыльёны рублёў на навуку і маштабнае пасярэнне мадэрнізацыі Беларусі па 9 асноўных накірунках. Зрэшты, прыгожых слоў нямала гучала і раней, але затым для нас пачаліся цяжкасці з атрыманнем энерганосьбітаў, значна выраслі цэны на расійскія газ і нафту. У выніку ў канцы ліпеня чарговая партыя венесуэльскай нафты на чацвёрты месяц такіх перавозак упершыню была пастаўлена ў Беларусь транзітам праз Эстонію.

Самае дзіўнае, што ўмовы такіх паставак сталі сакрэтнымі, як і ўмовы аплаты лацінаамерыканскага "чорнага золата". Хоць Белстат і паведамляў аб аплаце паставак нафты з далёкага замежжа па цане 656 $/тона. Але ў гэта слаба верыцца, бо нават з улікам павышаных расійскіх мытных пошлін нафта з РФ каштуе танней – менеі 550 $/т. Праз порты Прыбалтыкі вазіць нафту з Венесуэлы нават працяй і бліжэй. Прыйдзецца нашай краіне думаць і пра дадатковыя маршруты транспарціровак, бо па чыгунцы максімум за год можна перавезці толькі 6 млн. тон нафты на два заводы ў Мазыры і Наваполацку.

Пакуль зазначым, што абмяркоўваемая Канцэпцыя сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2011-2015 гады мае новыя прыярытэты – інавацыі і адукацыю нацыі. Але апошнія гады канкурэнтназдольнасць беларускіх тавараў на экспарт знізілася, пры продажах за мяжу дамініравалі сыравінныя тавары – нафтапрадукты і калійныя ўгнаенні.

Замінаць паспяховаму выкананню намечаных грандыёзных планаў будуць і іншыя фактары.

У наступныя 5 гадоў Беларусі прыйдзецца пачаць вяртаць ранейшыя даўгі, пагашаць крэдыты МВФ і пачаць аплату раней набраных расійскіх і кітайскіх крэдытаў. А яшчэ спатрэбяцца агромістыя сродкі на будаўніцтва атамнай станцыі. Пакуль жа толькі на Віцебшчыне за некалькі месяцаў загадана падняць зарплату амаль на паўмільёна рублёў, а 123 буйныя прадпрыемствы рэспубліканскай уласнасці і 300 USD у месяц не маюць магчымасці аплочваць людзям за іх працу.

Дарэчы, кіраўніцтву краіны можна асабліва не хваляваццa за вынікі чарговай важнай палітычнай кампаніі. У дзеючага кіраўніка дзяржавы рэйтынг стабільна высокі, 45, 6 % і нават крыху вырас на фоне канфлікта з Масквой, але яшчэ болей тых, хто не вызначыўся, як будзе галасаваць на новых выбарах, якія няўхільна прыбліжаюцца. Не будзем, аднак, забываць, што нядаўна нам было цяжка знайсці і 200 млн. $ для аплаты доўгу за газ...

*У працяг тэмы, распачатай ў «ВГ» №27 (535) за 8 ліпеня 2010 г., № 28 (536) 15 ліпеня 2010 года, №30 (538) 29 ліпеня2010 года, №31 (539) 5 жніўня 2010 г.*

# Ігнапаль

## і яго ваколіцы

**Генадзь Комель**

Славацкія вайскоўцы, якія трымаліся ва Узрэччы-Двор сумесна з батальёнам латышоў, сагналі ўсё насельніцтва наваколля ў вялікае памяшканне для захавання збажыны (нявымалачанае жыта, ячмень, авёс), у так называемую літоўку. Літоўка – гэта вялізнае збудаванне, у якім вымураваны каменнацагельныя слупы с пазамі, дзе закінуты даўжэзныя бярвенні для прасценкаў паміж слупамі. Як ўсе гэтыя работы робяцца, спадзяюся расказаць у “Краязнаўчай газеце” у рубрыцы “У дапамогу ўладальніку экапасялення”.

Дык вось, пры праверцы людзей, падрыхтаваных для спальвання жыўцом, было кімсьці сказана нямецкім уладам, што некаліькі чалавек пайшло ў партызаны. А аказаліся ўсе ў наяўнасці. Вось тады некалькі малалеткаў 15 – 17 год былы вывезены ў Германію.

Падчас нямецкай акупацыі ў апошнюю сусветную вайну для беларусізацыі, менавіта для беларусізацыі, а не толькі для беларускай мовы, было шмат зроблена гаўляйтэрам Беларусі Вільгельмам Кубэ. Калі ўсё зробленае пералічыць, а мы гэта зробім, так бы мовіць, па нарастаючай, то Вільгельму Кубэ можна даваць медаль Францыска Скарыны за адраджэнне Беларусі. Але кожнаму вядома, што свая кашуля бліжэй да цела. Пагэтаму патрэбна дэталёва разглядаць адваротны бок падзей, і нават хочацца прачытаць на тонкай каёмачцы адлітага рубля, мо замест звычайнага надпісу “падробка караецца па закону” напісана “а чем же наше хуже ваших”.

Газета “Вольнае Глыбокае” створана для сельскага чытача, і мне нямка расказваць, як за даўнім часам маладога каня прымушалі хадзіць за плугам. На аброць каля вачэй каня надзявалі спецыяльныя накладкі, якія не дазвалялі каню бачыць нічога лішняга, а дазвалялі бачыць толькі тое, што патрэбна для яго гаспадара.

Вільгельм Кубэ. Нарадзіўся ў 1887 годзе. Вывучаў гісторыю, дзяржаўную будову. Генеральны сакратар кансерватыўнай партыі ў Брэслаў з верасня 1912 года. Рэдактар кансерватыўных газет у Магдэбургу і Сілезіі. Узначальваў маладзёжную арганізацыю Германскай нацыянальнай партыі. Дэпутат рэйхстага з 1924 года. Уступіў у СС 29 верасня 1933 года. Атрымаў вымову па партпрацы ў 1936 годзе. Выйшаў з СС і пайшоў у адстаўку.

Мікалай Васільевіч Дуброўскі ў сваёй кнізе “Бессмертие подвига” расказвае па ўспамінах Мазанік, што ў кабінеце Кубэ вісеў вялізны партрэт Гітлера, а знізу пад ім партрэт радавога Кубэ. Што хацеў сказаць гэтым учынкам Кубэ, павесіўшы партрэт радавога ў доме №27 па вуліцы Тэатральнай, цяжка зразумець. Адно толькі дакладна вядома са слоў другой жонкі Вільгельма Кубэ – Аніты Лідэнкольн, на 27 гадоў маладзейшай за свайго мужа і аднагодкі Мазанік, што Вільгельм Кубэ без суда і дазнання растраляў некалькі салдат і афіцэраў. Прычыну растрэла розныя даследчыкі тлумачаць паразнаму.

Дом гэты, пад №27 па вуліцы Тэатральнай, у пасляваенны час яшчэ доўга служыў для Саюза пісьменнікаў БССР, куды я не аднойчы заходзіў да Вярцінскага Анатоля Ільіча, калі ён быў літаратурным кансультантам па паэзіі. Што гэта за дом, я ў той час не ведаў. Дом Саюза пісьменнікаў Беларусі знеслі ў той час, як пачалі будаваць дом ЦК партыі, дзе ў сучасны момант рэзідэнцыя Прэзідэнта. Чаму знеслі гэты дом, не зусім зразумела, бо некаторыя дамы побач засталіся. Але якаясьці матывацыя тут прысутнічае. А вось другі дом чаму знеслі, тут ніякім сэнсам не вытлумачыш. На сучаснай вуліцы Энгельса, гэта дзесьці з паўкіламетра ад дома пісьменнікаў, і ў сучасны момант стаяць дыхтоўныя, з чырвонай цэглы, маленькія двухпавярховыя домікі, з царскіх часоў №32 і №34. У адным з іх жыў мой аднакласнік Крывёнак Алег Васільевіч, прафесар акадэміі мастацтваў, што месціцца па вуліцы Сурганава. Дык вось, на вуліцы Энгельса, побач з домам Алега Васільевіча, у такім жа аднатыповым доміку жыла Мазанік. Чэснае пенсіянерскае, не разумею, чаму яго знеслі.

Мяне штосьці, як аўтамабіль на слізкай дарозе, заносіць і заносіць. Для язды па лёдзе патрэбен вялікі вопыт: “Не газуй рэзка, але і тармазі асцярожна”.

Міхаіл Васільевіч Дуброўскі ў сваёй кнізе “Бессмертие подвига” на старонцы 43 расказвае, што муж Мазанік – Аляксандр Тарлецкі, які працаваў кіроўцам аўтамабіля ў гаражах Саўнаркома Беларусі, у першы дзень з’ехаў з наркомам і да 1943 года нічога не ведала аб лёсе мужа.

Паспешлівы ад’езд савецкай адміністрацыі і кепскае захоўванне архіваў у першыя дні вайны прывяло да таго, як сцвярджаюць многія пасляваенныя даследчыкі гэтай тэмы, што гестапа па знойдзеных адрасах арыштоўвала падполле ў многіх мясцінах.

Прызначэнне Вільгельма Кубэ з вельмі сумнiўнай рэпутацыяй у Мінск, у якога не было падрыхтаваных людзей для працы ў адміністрацыі, суправаджалася перадачай людзей для гэтай работы, не патрэбных у Рызе. На гэта Кубэ сказаў: “Але я прашу не дзейнічаць паводле прынцыпу фільтру, калі лепшыя застаюцца ў Рызе, а дробная рэшта прыязджае сюды і разглядае Мінск, як нейкую папраўчую калонію”.

Я не буду пералічваць усе штабы нямецкай адміністрацыі, дзе яны размяшчаліся ў Мінску, але некаторыя ўсё ж адзначу. Паліцэйскія батальёны №46, 46 і 48 (паліцыя парадку) размяшчалася ў казармах на поўнач ад Опернага тэатра. Камандзірамі былі прыбалты (чорная форма). Штаб Артура Нэбэ быў у Доме ўраду, штаб Эрлінгера – ва ўніверсітэце. Лічыцца, што 80% Мінска было разбурана. Але ж гэта былі маленькія драўляныя домікі прыватнага сектара і габрэйскія пасяленні. Гэтай жа методыкай часцяком карыстаюцца і ў сучасны момант.

Кіраўніком цывільнай адміністрацыі Беларусі з 01.09.1941 года да 22.09.1943 года быў Вільгельм Кубэ. Цікавая атрымліваецца лічба – 2 гады і 22 дні, альбо пры напісанні – тры двойкі. Але па выніках сваёй працы, як бы не суцэльны двоечнік.

Кіраўнік аддзелу моладзі пры генеральным камісарыяце банфюрэр гітлерюгенда Шульц пры садзеянні Кубэ стварыў Саюз Беларускай Моладзі (СБМ). Нешта гэта выклікае асацыяцыю з нашай аднай высокатыражнай газетай. У дастасаванні да нашай сітуацыі гэты ланцужок могуць прадоўжыць самі чытачы.

Як кажуць у народзе: “З песні слова не выкінеш”, бо загубіцца сэнс песні. Я не думаю, што парушу хоць адзін параграф хоць якога з законаў, калі я працытую статут СБМ, тым больш, што гэты статут апублікаваны ў многіх СМІ.

“А) Нацыянал-патрыятычнае выхаванне правадзіцца шляхам азнаямлення з прошлым беларускага народа і дзяржавы, вывучэннем беларускай мовы і культуры, а таксама сваіх нацыялістычных асабліваcцяў у прызнанні сваёй дзяржавы.

Б) Шляхам маральнага выхавання вытравіць з народа рабскую псіхалогію, якая прынесла беларускаму народу такі цяжкі ўрон”.

Шэф СБМ Ганько Міхаіл нарадзіўся ў 1916 годзе ў Маладзечне, добра валодаў нямецкай мовай, патрапіў у палон у першыя дні вайны.

У кнізе Аляксандра Адзінца “Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў” сказана, што Ганько Міхаіл (28.02.1918 года, хутар Каледзіна (цяпераз Маладзечанскі раён Мінскай вобласці) – 2000?) вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя. У траўні 1941 года прызваны санітарам у Чырвоную Армію і ў першыя дні вайны патрапіў у палон. У палоне скончыў курсы прапагандыстаў у Астраве пад Берлінам. У 1942 годзе накіраваны ў аддзел прапаганды генеральнага камісарыята Беларусі. Узначаліў СБМ, быў радактарам часопіса “Жыве Беларусь!”. У восень 1944 года ўведзены ў склад БЦР. Далейшы лёс невядомы. Паводле адной з версій браў удзел у антысавецкай партызанцы. Паводле другой – загінуў у Празе ў траўні 1945 года. Паводле трэцяй – пасля вайны жыў і памёр у Заходняй Нямеччыне.

Але ёсць і чацвёртая версія. Ужо ў першыя гады новага веку ў газеце “Вольнае Глыбокае” быў надрукаваны артыкул аб Міхаіле Ганько, дзе на здзіўленне сказана, што ён памёр у Маскве.

Я ведаю аўтарку таго артыкула. На маю думку, яна абапіралася на звесткі Кастуся Акулы (сапраўднае – Качан Аляксандр, вёска Верацеі Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці). Мо ў архівах спадара рэдактара газеты “Вольнае Глыбокае” захаваўся той артыкул.

У Глыбоцкім гебіткамісарыяце ўзначальваў СБМ Рачыцкі. Ён выдаў свае ўспаміны асобнай кнігай.



**Дзеткі глядзяць за святкаваннем Дажынак у акупаваным Мінску. Здымак 4.10.1942 г.**

## 100-год Задарожскаму касцёлу

15 жніўня 2010 года, у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, касцёл у Задарожжы будзе адзначаць 100-гадовы юбілей. А 13-ай гадзіне адбудзецца ўрачыстая Святая Імша, якую будзе цэлебраваць кс. біскуп Уладзіслаў Блін і шматлікія святары. Пад час гэтай Святой Імшы адбудуцца дыяканскія пасвячэнні. Пасля імшы – канцэрт, прысвечаны 100-годдзю касцёла.

Сардэчна запрашаем усіх прыняць удзел у гэтых урачыстасцях, а асабліва тых, хто ў гэтым касцёле прымаў святыя сакраманты.

*кс. Эдвард Нарадоўскі, пробашч парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы.*

Строительная компания
СНИМЕТ КВАРТИРУ
в г. Глубокое на длительный срок для проживания рабочих. Контактное лицо: Владимир Егорович, тел.: 8(029) 619-51-11
УНП 690777837

НАЦЯЖНЫЯ ПАТАЛКІ
Гарантыя 10 год!
Тэкстура плёнкі:
матавая (Расія, Украіна, Францыя)
лакавая (Расія, Францыя);
лакавая "premium", "veiron" сацінавы (Францыя);
"Аблокі" (Расія)
паўпразрыстая, металік, кварц, гольф, клiпсо (Швейцарыя), фотадрук
Замер і кансультацыя – бясплатна!
ІП Сівіцкі К.В., УНП 300535045; пасв. № 1924, выд. 22.12.2004 г. Глыбоцкім РВК
Тэл.: 044 484-93-89; 562-43-44

# Глыбоцкі Мюнхгаўзен

## Гісторыя мае працяг

■ Ул. Скрабатун

Ведаеце, ёсць людзі, якія, на дзіва, чытаюць газеты "ад коркі да коркі". Напрыклад, жыхар Глыбокага сп. Генадзь Плавінскі. Ён прадставіў рэдакцыі "ВГ" вынятку з газеты "Народная Воля" за 3-5 жніўня 2010 г. Артыкул называецца "Інтэлігент, якому ўсяго 23 гады", які падпісаны Арынай Сандовіч.

Матэрыял прысвечаны маладому, але ўжо вібітнаму паэту і журналісту Глебу Лабадзенку.

Па праўдзе кажучы, калі б гэты матэрыял адвольна патрапіў мне на вочы, то наўрад ці я стаў бы яго чытаць. Бо вельмі шмат ведаю пра Лабадзенку, сачу за ягонымі публікацыямі, вельмі захоплены ягонымі матэрыяламі пра Радзівілаў. Цікавы малады чалавек.

І гэты матэрыял, абегшы вачыма, вырашыў: а што тут чытаць? Ізноў пра Радзівілаў! Ізноў пра іхні прыезд у нясвіжскі замак, ізноў пра 92-гадовую Эльжбету Радзівіл, дзяцінства якой прайшло ў гэтым замку. Усё гэта ведаю, шматкроць чытаў! Цікава! Захапляльна! Але ж не ў 15-ты, ці ў 20-ты раз чытаць адно й тое.

Аднак спадар Плавінскі адмыслова выдзеліў абзац у тэксце, які я мусіў абавязкова прачытаць. Вялікі дзякуй спадару Генадзю.

Вось гэты абзац (а не ўвесь артыкул) мы прапануем увазе нашых чытачоў.

**Арына Сандовіч:** А што думаюць Радзівілы аб шматлікіх легендах, звязаных са знакамітымі прадстаўнікамі іх роду?

**Глеб Лабадзенка:** *Усе гэтыя байкі пра Чорную панну Нясвіжа і закапаныя скарбы яны страшна не любяць, бо настолькі дасканальна ведаюць генеалогію свайго роду, якая была насычана значнымі гістарычнымі падзеямі, што ім дастаткова расказваць праўду, а не выдумваць казкі. Чорная панна Нясвіжа для іх зусім не Барбара Радзівіл, а Кацярына Радзівіл з Сангушкаў. Гэтая маладая дзяўчына вельмі загадкава памерла. Дык вось, яе прывід Радзівілы лічаць сваім талісманам, які з'яўляецца, каб засцерагчы прадстаўнікоў гэтага роду ад надыходзячай пагрозы. А ці ведаеце вы, што знакаміты барон Мюнхгаўзен "сцягнуў" свае байкі ў не менш знакамітага Пане Каханку — Караля Станіслава Радзівіла? Пане Каханку вельмі любіў распавядаць байкі, кшталту, як ён за валасы выцягнуў сябе з балота або, як каня папалам рассякаў і потым зноўку склейваў. Аб гэтым захаваліся шматлікія гістарычныя сведчанні.* **Што датычыцца барона Мюнхгаўзена, то гэта — рэальная асоба. Ён служыў у Гародне і жыў у адзін час з Каралем Станіславам Радзівілам. У Глыбокім і дагэтуль знаходзіцца магіла яго сваякоў Фердынанда і Вільгельміны фон Мюнхгаўзен...**



Караль Станіслаў Радзівіл

Ну, во! Ёсць канкрэтная зачэпка! Можна, хоць за нешта, ухапіцца! А то сядзім і гадаем: той гэта Мюнхгаўзен, ці не той? Унук ці пляменнік?

Цікава, аднак, яшчэ й тое, што ў кнізе "Памяць. Глыбоцкі раён", на стар.52-53, ёсць такія радкі: "… 7 ліпеня 1700 года зарава пажару асвяціла неба. У дакуменце пад назваю "Канатацыя згарання горада Глыбокае пана канцлера Карла-Станіслава Радзівіла" чытаем:

"… дамоў асобных згарэла 80, гумнаў – 50, крам з усімі таварамі – 40, свірнаў з рознымі таварамі, воскам, розным збожжам згарэла 60, клетак з гаспадарчымі рэчамі – 30".

Заўважылі? У Гародне (Гродна) і ў Глыбокім – Караль Станіслаў Радзівіл, і таксама, Мюнхгаўзены – у Гродне і ў Глыбокім!

Эх-х-х-х! Казаў жа я глыбоцкім чыноўнікам: «Не бурыце замак Радзівілаў! Да скону веку будзеце кусаць локці! Народ такога не даруе…»




Глеб Лабадзенка (злева) і 92-гадовая Эльжбета Радзівіл (у цэнтры).

**Адной з найвялікшых постацяў беларускай паэзіі XX стагодзьдзя адмысловцы й чытачы называюць Ларысу Геніюш, якая пражыла пакутлівае, але зьмястоўнае й доўгае жыцьцё, павучальнае для наступных пакаленьняў. Сёлета, 9 жніўня, гэтай легендарнай асобе, мужнай захавальніцы таямнічага архіву БНР ды ня менш таемных нотак беларускага мэлёсу ў сучасных рыфмах, спаўняецца 100 гадоў, таму ўвесь 2010 год пазначаны каскадам памятных мерапрыемстваў, праводзімых лідэрамі беларускай інтэліґенцыі й грамадзкімі арґанізацыямі краіны.**

■ **Вітаўт МАРТЫНЕНКА,** музычны крытык.

## Мэлёс ґеніяльнай паэзіі *

Музычна-выдавецкі лэйбл «БМАgroup», напрыклад, выдаў ажно два юбілейныя выданні на кампакт-дысках – альбом беластоцкага гурту «Белы сон», творчасць якога прасякнута жывым духам геніяльнай паэзіі, і паўторны тыраж CD-трыбʼюта «Жыць для Беларусі», дзе не толькі гучыць жывы голас паэткі, але й цудоўныя песні паводле ейных вялікіх вершаў ад Уладзіміра Мулявіна, Андрэя Плясанава, Алеся Камоцкага, Вальжыны Цярэшчанкі, Зьмітра Бартосіка, Віктара Шалкевіча, Ларысы Сімаковіч ды іншых знакамітых артыстаў. Вабным дадаткам да праграмы абодвух дыскаў сталі й мультымэдыйныя бонусы, дзе ўтрымліваюцца гістарычныя запісы з прыватных архіваў, юбілейныя сучасныя відэакліпы. Першая прэзэнтацыя абодвух музычных выданняў пройдзе 7 жніўня ў Зэльве, дзе ў родавай сядзібе сямʼі Ґеніюшаў сярод іншых імпрэзаў адбудзецца й памятная вечарына, ладжаная вядомым паэтам і журналістам Міхасём Скоблам. Экскурсійныя туры на тую імпрэзу рыхтуюцца ў розных гарадах Беларусі.

У верасні запланаваны й вялікі канцэрт у сталіцы, прысвечаны Ларысе Ґеніюш, у якім возьмуць удзел стваральнікі абодвух музычных праектаў і выдаўцы.







* **Заўвага рэдакцыі.** Матэрыял апублікаваны паводле правапісу арыгінала аўтара. Хтосьці з пішучай беларускай братыі практыкуе ўжыванне кірыліцай двух літараў: «г» і «ґ», гэта адэкватна лацінскім літарам «h» і «g». Напрыклад: Глыбокае – Hłybokaje, ґеній – genij. Ужыванне літараў «г» і «ґ» было ў праеце рэформы беларускага правапісу 1930-ых гг. Аднак, тое не здзейснілася. Цяпер, дзякуючы камп'ютэрам, з'явілася магчымасць «пазычыць» гэтую літару з іншых нацыянальных шрыфтоў. Мы пакінулі тэкст аўтара без зменаў у якасці прыкладу і даведкі для нашых чытачоў. Магчыма шмат хто пра гэта не ведаў і не чуў.

**Цытата з Вікіпедыі — вольнай энцыклапедыі:**

Ґ, ґ — пятая літара ўкраінскага кірылічнага алфавіта. Таксама факультатыўна выкарыстоўваецца ў класічным правапісе беларускай мовы. Адзначае рэдка выкарыстоўваемы ў гэтых мовах выбуховы гук [г] ([g]), які існуе паралельна з асноўным фрыкатыўным гукам [h], які адзначаецца ва украінскай і беларускай мовах літарай Г.

## Наглядчыца Полацкага музея-запаведніка асуджана за крадзеж выручкі ад рэалізацыі білетаў і сувеніраў

Да двух гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму, канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пасады, якія звязаныя з улікам і распаўсюджаннем матэрыяльных каштоўнасцяў, судом Полацкага раёна прыгаворана наглядчыца Полацкага музея-запаведніка.

Як паведамілі ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Віцебскага аблвыканкама, на працягу практычна паўгода 47-гадовая жанчына прысвойвала выручку ад рэалізацыі білетаў і сувенірнай прадукцыі па месцы працы.

Агульная сума скрадзенага ёю склала больш за 15 млн. беларускіх рублёў.

Суд асудзіў наглядчыцу па ч. 3 арт. 211 КК (прысваенне ці растрата даверанай маёмасці, учыненыя ў буйным памеры).

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

## Літоўскія вершнікі адправяцца ў гістарычны паход па месцах ВКЛ

**Напачатку верасня са старажытнай сталіцы Літвы Трокі ў гістарычны паход «2000 кіламетраў гісторыі» па месцах Вялікага княства Літоўскага адправяцца 10 літоўскіх вершнікаў, паведамляе карэспандэнт БелТА.**

Паход па гістарычных месцах ВКЛ задумаў вядомы літоўскі бізнэсмэн, арганізатар найбуйнага ў краінах Балтыі фэсту Be2gether Гедрус Клімкявічус. Ён сам плануе прыняць удзел у 40-дзённым паходзе, падчас якога вершнікам трэба пераадолець больш 2000 кіламетраў да берагоў Чорнага мора. Завяршыць паход энтузіясты плануюць ва ўкраінскім горадзе Ачакаў.

Удзельнікі паходу наведаюць каля 20 гістарычна значных аб'ектаў ВКЛ, збяруць матэрыял для дакументальнага фільма пра культурную спадчыну Вялікага княства Літоўскага.



Вершнікі адправяцца ў шлях на абарыгенных літоўскіх канях жамайтукас, пераадольваючы ў дзень каля 50 кіламетраў. Жамайтукас вядомыя ў Літве ўжо 700 гадоў. Менавіта на такіх конях ездзілі вершнікі ВКЛ. Парода не раз знаходзілася пад пагрозай знікнення. Цяпер у Літве засталося 400 коняў пароды жамайтукас і яшчэ менш выведзеных на іх аснове ўзбуйненых жамайтукасаў. Для захавання пароды, па меркаванні адмыслоўцаў, неабходны статак хоць бы ў 1000 галоў.

**Алена Юркявічэне, БЕЛТА**

